www.nv-online.info

№ 22 (4069)

22 сакавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля» в Twitter*
*www.twitter.com/narodnaya_volya*
*в Facebook*
*www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte*
*www.vk.com/nvonlineinfo*

БЕЛАРУСЬ–ПОЛЬШЧА

# Сёння з двухдзённым візітам у Беларусь прыбывае міністр замежных спраў Польшчы Вітольд Вашчыкоўскі



З-за спецыфікі падрыхтоўкі газетнага нумара ў друк мы не ведаем, ці ўдалося яму выканаць свой першапачатковы намер, але ў нашу краіну ён збіраўся ехаць на машыне. Каб усё няспешна агледзець, каб заехаць на радзіму маці ў Ваўкавыск, каб адчуць "смак" папулярнай трасы "Мінск–Варшава". Сам міністр назваў свой візіт у Беларусь не рабочым, а азнаямленчым.

Пасля адлігі ў адносінах паміж Беларуссю і Еўрасаюзам гэта першы візіт у Мінск высокай службовай асобы з краіны ЕС. Праўда, ці адбудзецца сустрэча пана Вашчыкоўскага з Аляксандрам Лукашэнкам, не вядома. Па крайняй меры літаральна за пару дзён да свайго ад'езду ў Мінск Вітольд Вашчыкоўскі на гэты конт заявіў у інтэрв'ю "Польскаму радыё": "Дакладна яшчэ не вядома. Мы атрымалі сігналы аб верагоднасці такой сустрэчы, але пацвярджэння пакуль няма". Затое дакладна вядома, што ў міністра адбудуцца сустрэчы з беларускім калегам Уладзімірам Макеем, прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці і прадстаўнікамі польскай меншасці. Чакаецца таксама ўскладанне міністрам вянкоў у Курапатах. Трэба сказаць, што апошнімі днямі камунальныя службы там усё добраўпарадкоўвалі і прыбіралі.

Дарэчы, прыблізна месяц таму Вітольд Вашчыкоўскі заявіў, што нармалізацыя адносін паміж нашымі краінамі будзе залежаць менавіта ад нармалізацыі сітуацыі з захаваннем правоў польскай меншасці. Нагадаем, што ў Беларусі існуюць два Саюзы палякаў, адзін з якіх так і застаецца незарэгістраваным.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### З асабістай справы

*Сям'я маці міністра замежных спраў Польшчы Вітольда Вашчыкоўскага да вайны жыла ў Ваўкавыску. Дзед міністра працаваў на мясцовай пошце. Пасля вайны сям'я пераехала ў ПНР. Інфармацыяй пра гэта палітык распачаў сваю нядаўнюю сустрэчу з прадстаўнікамі беларускіх эміграцыйных арганізацый у Варшаве.*

### ДАСЬЕ

Вітольд Вашчыкоўскі нарадзіўся 5 мая 1957 года ў мястэчку Пётркув-Трыбунальскі Серадскага павета бліз Лодзі. Ён скончыў філасофска-гістарычны факультэт Лодзінскага ўніверсітэта, а ў 1991 годзе ва ўзросце 34 гадоў з'ехаў у ЗША, паступіўшы ў Арэгонскі ўніверсітэт на факультэт міжнародных адносін.

Аспірантуру пан Вашчыкоўскі праходзіў ужо ў Еўропе, у Жэнеўскім цэнтры палітыкі бяспекі, займаючыся даследаваннямі ў галіне міжнароднай бяспекі і кантролю над узбраеннямі. У канцы 1990-х быў прыняты на службу ў МЗС, пачынаў працу ў польскім прадстаўніцтве ў НАТА. У 2005 годзе стаў намеснікам кіраўніка МЗС Польшчы, праз тры гады – намеснікам дырэктара Бюро нацыянальнай бяспекі. Праз два гады вырашыў пайсці ў "чыстую палітыку", стаў дэпутатам Сейма.

У 2015 годзе на парламенцкіх выбарах па спісе партыі "Права і справядлівасць» ён перамог у сваім Серадскім павеце. "ПіС" стала кіруючай партыяй, якая мае права фарміраваць кабінет міністраў, і Вітольду Вашчыкоўскаму – вопытнаму дыпламату і спецыялісту па міжнароднай бяспецы – была прапанавана пасада кіраўніка МЗС.

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

# І ў другім квартале – разам!

Усяго пяць дзён застаецца да заканчэння падпіскі на "Народную Волю" на другі квартал. Многім з Вас, шаноўныя сябры, раім завітаць у любое паштовае аддзяленне альбо ў бліжэйшы спецыялізаваны пункт "Белсаюздруку" і нанова замацаваць сваё сяброўства з газетай, якая вось ужо дваццаць першы год выдаецца дзеля Вас і служыць толькі Вам!

**Вы – за дэмакратыю?**
**І мы за дэмакратыю!**
**Вы – за праўду?**
**І мы за праўду!**
**Разам мы – вялікая сіла.**
**Таму – руку на далейшае сяброўства!**

Калі ў Вас ёсць магчымасць дапамагчы з падпіскай на "Народную Волю" тым, у каго зараз адчувальныя фінансавыя цяжкасці, – дапамажыце ім, калі ласка. Ваша дабрачыннасць адгукнецца шчырай падзякай.

Чым больш будзе прыхільнікаў у "Народнай Волі", тым больш людзей змогуць даведацца праўду аб усім, што адбываецца ў Беларусі і па-за яе межамі, пазнаёміцца з думкамі і меркаваннямі нашых чытачоў, знайсці сваіх аднадумцаў.

Далучайцеся да нас, і мы будзем заўжды сардэчна вітаць вас, сяброў нашай газеты!

РЭХА

# Агульная перамога!

*Час ад часу здаецца, што газетныя публікацыі – марны лямант у пустыні, але бывае і так, што яны ўсё-такі далятаюць да вушэй высокіх чыноўнікаў.*

Вялікі рэзананс мела калонка Святланы Калінкінай "Воды пожалели" ("Народная Воля", №9 за 2 лютага). Некаторыя чытачы нават тэлефанавалі ў рэдакцыю і паведамлялі, што яны публічна зачытвалі матэрыял у электрычках ды на лавачках ля пад'ездаў, абураючыся разам з газетай рашэннем улад рэзка павысіць тарыфы на ваду.

На гэты раз абурэнне людзей пачулі ў "Чырвоным доме". На апошняй нарадзе з удзелам Аляксандра Лукашэнкі, дзе абмяркоўваліся праблемы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, было прынята рашэнне **знізіць тарыфы на водазабеспячэнне на 41,5%, на водаадвядзенне – на 55,1%.**

Ну што ж, гэта маленькая, але наша агульная перамога! Віншуем усіх!

**Вы – з "Народнай Воляй", "Народная Воля" – з Вамі!**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Юрий Чиж сидит вместе со своим заместителем

*Как стало известно «Народной Воле», в один день с известным бизнесменом, руководителем группы компаний «Трайпл» **Юрием Чижом** правоохранительные органы задержали и его заместителя по экономике **Эдмунда Тышкевича.***



Он был в курсе всех финансовых вопросов компании.

Эдмунд Марьянович Тышкевич – фигура непубличная. В прессе он упоминается лишь в связи с подписанием в Кемеровской области протокола о намерениях строительства молочного и мясоперерабатывающего заводов. Это было пару лет назад. С российской стороны контракт тогда подписал совладелец и президент холдинга «Сибирский деловой союз» **Михаил Федяев,** с белорусской – Тышкевич.

**Эдмунд Тышкевич подписывал немало бумаг, в том числе – и протокол о сотрудничестве в Кемеровской области.**

Эдмунд Тышкевич тоже находится в СИЗО КГБ. Его супруга разговаривать с журналистами отказывается.

*«Я не даю никаких комментариев»*, – говорит она. Как и все родственники задержанных, она в последние дни наверняка была обеспокоена условиями содержания в «американке», графиком передач и прочими вопросами, связанными с тюремным бытом.

Кстати, принципиальная позиция самого Юрия Чижа, которую он озвучил своему адвокату, – никаких комментариев для прессы.

**Алина ВЕТРОВА.**

## Обвиняется в неуплате налогов

Юрию Чижу уже предъявлено обвинение. Оно связано с уклонением от уплаты налогов и сборов в особо крупном размере.

По информации «Народной Воли», полученной неофициально, предварительно речь идет о сумме около 4 миллиардов белорусских рублей. Если вспомнить, какими объемами ворочал Юрий Александрович, то для него это капля в море. Впрочем, под прицелом правоохранительных органов пока оказались только несколько фирм, подконтрольных Чижу. Не исключено, что в ближайшее время разберут на молекулы деятельность и всех остальных предприятий Чижа. А это значит, что цифра может измениться…

Меру пресечения для белорусского олигарха оставили прежней – содержание под стражей. На имущество Чижа наложен арест.

Сотрудничает ли Юрий Александрович со следствием и допрашивали ли его уже, пока точно не известно.

**Вера ВИР.**

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Коттеджи в Логожеске немного подешевели

Какие дома сегодня продаются в элитном коттеджном поселке Логожеск, который построил Юрий Чиж?

– *Там есть блокированные дома – таунхаусы, и есть один отдельно стоящий дом,* – рассказали «Народной Воле» в «Трайпле». – *Таунхаусы есть в разной стадии готовности: без отделки, с частичной или полной отделкой. Коттедж без отделки стоит 100 тысяч условных единиц, с частичной отделкой – 180 тысяч, полностью с отделкой – 230 тысяч.*

Отдельно стоящий особняк остался один. Его площадь – 340 метров квадратных, причем это без мансардного этажа, который в эту площадь не входит (по проекту он идет как чердак, но при желании там легко можно сделать мансарду). Его продают за 300 тысяч условных единиц. Внутри дома нет ничего – только стены.

Еще недавно сообщалось, что за двухэтажные коттеджи-квартиры с изолированным входом и общими боковыми стенами без внутренней отделки «Трайпл» просил 200–270 тысяч долларов, а с отделкой – 350 тысяч.

*«А не получится так, что купишь коттедж, а вместе ним и некоторые проблемы? Не получится так, что на купленный дом потом наложат арест?»* – на всякий случай уточнила «Народная Воля.

*«Это имущество не под арестом, оно свободно»*, – сказали в «Трайпле».

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**



РЭБУС

## Куды накіроўваўся Юрый Чыж?

*З моманту арышту бізнесмена прайшло ўжо некалькі дзён, але некаторыя падрабязнасці яго затрымання дагэтуль выклікаюць пытанні. Па якім маршруце ехаў Чыж? Дзе ён быў арыштаваны?*

На прэс-канферэнцыі старшыня КДБ **Валерый Вакульчык** заявіў, што Чыж, даведаўшыся пра следчыя дзеянні ў офісах "Трайпла", на хуткасці 220 км/гадзіну накіраваўся да дзяржаўнай мяжы. "*Быў задзейнічаны план "Перахоп". Ехаў на захад спярша ў бок літоўскай мяжы, потым на брэсцкую трасу*", – сказаў Вакульчык.

Узнікае пытанне: што разумеў службоўца пад брэсцкай трасай? Фрагмент трасы М1 у накірунку Брэста? Або ў бок Оршы? Нездарма ўвесь беларускі ўчастак трасы "Брэст–Масква" называюць у народзе "брэсцкай". Другі варыянт больш лагічны, бо на мяжы з Расіяй адсутнічае памежны кантроль. Магчыма, Чыж нейкім чынам даведаўся, што на мяжы яго чакаюць, і рушыў у бок усходняй мяжы.

Таму дакладна вызначыць маршрут Чыжа складана. Калі бізнесмен з вільнюскай трасы павярнуў у бок Брэста, то ён мог збочыць у трох месцах. Ля Ашмянаў, каб выехаць на трасу М1 ля Баранавічаў. За Валожынам – каб выехаць у раёне Стоўбцаў. Ля АЗС №19 "Беларуснафта", каб выехаць на трасу каля Дзяржынска.

Калі Чыж накіраваўся ў бок Расіі, хутчэй за ўсё, ён вярнуўся да Ракава і павярнуў на МКАД-2.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!



# Мільён для Вікторыі

*"Яна заслужыла", – так пракаментавала "Народнай Волі" бліскучую перамогу сваёй вучаніцы Валянціна Ягораўна Ржаных – першы трэнер беларускай тэнісісткі Вікторыі Азаранка.*



Як, напэўна, многія ўжо ведаюць, у мінулую нядзелю Вікторыя Азаранка выйграла прэстыжны тэнісны турнір у Індыян-Уэлсе (Каліфорнія). У фінале яна нечакана для многіх выйграла ў першай ракеткі свету Серэны Уільямс (6:4, 6:4).

Пасля перамогі беларуска раздавала кампліменты ў бок саперніцы, у якой апошні раз выйгравала аж у 2013 годзе. А пасля было ўзнагароджанне, мільён віншавальных слоў у адрас беларускі ад балельшчыкаў па ўсім свеце і 1 мільён долараў прызавых за першае месца на турніры.

Дарэчы, учора стала вядома, што Азаранка вярнулася ў топ-10, і зараз яна займае восьмы радок у рэйтынгу найлепшых тэнісістак свету. Вікторыя вяртаецца ў эліту?

– Я даўно не бачыў сітуацыю, калі Уільямс-малодшая практычна нічога не магла зрабіць з Вікторыяй, – кажа ўрач нацыянальнай зборнай Беларусі па тэнісе **Павел МАЛАШЭВІЧ.** – Серэна рэальна была ў цудоўнай форме, але не здолела пераламіць гульню, і Азаранка на самай справе была ў той дзень лепшай. І гэта прыемна ўдвая.

**– Але напрыканцы матча наша зямлячка заставіла балельшчыкаў пахвалявацца…**

– Калі гуляюць прафесіяналы, то ніхто зараней здавацца не будзе. Тым больш такі майстар, як Серэна Уільямс. Амерыканка даказала, што яна небяспечная пры любым ліку і мае цудоўны вопыт выратавання невыратавальных матчаў. Але і Віка паказала, што ў яе высокі ўзровень псіхалагічнай падрыхтаванасці. І фізічнай, дарэчы, таксама, бо калі б гэты кампанент у яе быў праблемным, то мы з вамі сёння наогул нічога не абмяркоўвалі б.

"*Яна заслужыла,* – усхвалявана дадае **Валянціна Ягораўна РЖАНЫХ** – першы трэнер Вікторыі Азаранка. – *Я глядзела гульню па тэлевізары і нарадавацца за Віку не магла! У яе было ўсё – і настрой, і жаданне перамагчы… Гэта ж трэба было так давесці Серэну сваёй добрай гульнёй, што тая са злосці аж дзве ракеткі зламала! Так што я стаўлю сваёй вучаніцы вышэйшую ацэнку і жадаю ёй не толькі перамагаць на турнірах, але і зноў узняцца на вышэйшую прыступку ў сусветным рэйтынгу! Нічога немагчымага няма*".

**Алесь СІВЫ.**

ПРАМАЯ ЛІНІЯ

## Дзяніс ШУНТО:
# «Нас называюць апазіцыяй у беларускім футболе”



*Паўаматарская сталічная футбольная каманда “Крумкачы” ўсяго за два гады сенсацыйна прабілася ў вышэйшую лігу і ўжо 2 красавіка стартуе ў чэмпіянаце Беларусі. На што здольны клуб з незвычайнай назвай “Крумкачы”? Чаму яго “бацькі” аддаюць апошнія грошы на ўтрыманне каманды? Ці можна мець высокія заробкі ў беларускім футболе? Сёння на пытанні нашых чытачоў, якія на працягу месяца дасылаліся ў рэдакцыю, адказвае адзін з сузаснавальнікаў “Крумкачоў” Дзяніс ШУНТО.*



«Крумкачы» разам з балельшчыкамі трыумфуюць пасля таго, як каманда патрапіла ў вышэйшую лігу.

**– Дзяніс, мяне завуць Уладзімір Аляксандраў. Чаму ваш футбольны клуб называецца «Крумкачы»? Хто гэта прыдумаў?**

– Мы з братам Антонам. Хацелі заявіць каманду на аматарскі турнір, трэба было выбраць назву. Не хацелася быць банальнымі “Стралой”, “Ракетай” ці “Спартаком”, марылі пра нешта незвычайнае і абавязкова беларускамоўнае. Сталі пералічваць назвы жывёл і птушак, спыніліся на “Крумкачах”. Адразу сказалі: “Класная назва! Лепшай і не прыдумаеш”.

**– Калі з’явіцца клуб балельшчыкаў, дык кожны сябра клуба таксама будзе “крумкач” (на рускай мове – “ворон”). Уявіце, якія асацыяцыі будуць выклікаць у людзей на вуліцы і ў грамадскім транспарце вашы гучныя аматары футбола. Скажуць: “Наляцелі крумкачы!” Не маеце жадання ўсё-такі змяніць назву клуба? Аб’явіце конкурс, выберыце больш прыстойную назву…**

– Я не прыхільнік таго, каб рэзка кідацца з боку ў бок. Тым больш мяркую, што назва “Крумкачы” прыйшлася даспадобы балельшчыкам і менавіта з ёй звязаны нашы першыя перамогі. “Крумкачы” – гэта ў любым выпадку ўжо гісторыя, а навошта адмаўляцца ад сваёй гісторыі?

***

**Уладзімір Карповіч: – На што вы разлічвалі, калі распачыналі праект?**

– У першую чаргу разлічвалі атрымаць асалоду ад гульні, больш даведацца пра беларускі футбол, паглядзець іншыя нашы гарады. Шчыра кажучы, пра асаблівыя перспектывы напачатку нават не марылі. Але ўсё пайшло настолькі добра, што планы давялося змяняць і рабіць сур’ёзныя крокі, каб стаць прафесійнай камандай. Крокі ў пэўны момант былі нават жорсткімі, бо даводзілася развітвацца з тымі, хто не захацеў перабудавацца, а па-ранейшаму жадаў “валяць Ваньку” на аматарскім узроўні.

***

**Сяргей Корбут, Магілёў: – Дзяніс, раскажыце больш падрабязна пра сябе. Дзе вучыліся, чым займаліся раней?**

– Нарадзіўся ў Смалявічах. Сам захапляўся футболам, гуляў за аматарскія каманды. Яшчэ школьнікам марыў паступіць на факультэт журналістыкі БДУ. Дарэчы, для паступлення неабходны былі публікацыі, таму памятаю, што нават зрабіў спробу надрукавацца ў “Народнай Волі”. Падаў дакументы ў БДУ, хоць па балах і не прайшоў. Паўбала не хапіла. Тады рэктарам быў Аляксандр Казулін, пайшоў да яго на прыём. Ён выслухаў і прапанаваў вучыцца нават не за палову, а за чвэрць платы. Але бацькі былі супраць. Сказалі: “За журналісцкую адукацыю не мае сэнсу плаціць. Калі ёсць прызванне журналіста, то і без адукацыі зможаш пісаць у газеты ў любы час”.

Пасля я паступіў у прыватную ВНУ – на факультэт міжнародных адносін Беларускага камерцыйнага ўніверсітэта кіравання, хоць яго потым закрылі. Заканчваць давялося ўжо Міжнародны інстытут дзелавых і сацыяльных адносін. Такія вось мае ўніверсітэты.

**– Дзе працавалі пасля гэтага?**

– Па спецыяльнасці я наогул не працаваў, а каля дзесяці гадоў займаўся спартыўнай статыстыкай – збіраў для клубаў і агентаў інфармацыю пра спорт. Гэта добра аплачвалася, за тое і жыў. Таму я вельмі добра ведаў і ўсіх ігракоў, і футбол увогуле. Ведаў, як за мінімальныя грошы сабраць добрую каманду.

**– Якія ў вас захапленні?**

– Футбол, падарожжы, дзяўчаты. Але пэўнага хобі няма. Машыны, рыбалка – гэта не маё.

***

**– Сяргей Станкевіч, Мінск: – Колькі грошай уклалі ў гэты праект напачатку і колькі на сёння патрацілі з уласных зберажэнняў?**

– Мы з заснавальнікамі (а нас трое – я, Васіль Глезаў і Уладзіслаў Маяроўскі) асабліва не лічылі, хто і колькі патраціў, але ў цэлым прыйшлося выкласці каля 200 тысяч “зялёных”. Больш за палову – мае. У мяне былі свае зберажэнні, акрамя таго пазычаў у знаёмых і блізкіх. Бацькі нават 15 тысяч долараў далі.

**– Што вам бацькі казалі, калі вы прасілі ў іх такую суму на футбольны клуб?**

– Ганарыліся дзецьмі. У нас у сям’і з гэтай нагоды ніколі не было спрэчак, і я ўдзячны бацькам за выхаванне. Яны нас з братам Антонам, які, дарэчы, у “Крумкачах” – варатар, лічылі моцнымі асобамі, якія ведаюць, куды ідуць. Мы заўсёды адчувалі падтрымку. Да слова, бацькі ў мяне сціплыя. Тата працаваў токарам, маці да гэтага часу выкладае ў школе матэматыку.

***

**– Пытанне ад Кацярыны: – Вы жанаты?**

– Не.

**– Як думаеце, ці стане вас цярпець жонка, калі вы ўвесь сямейны бюджэт будзеце “шпуляць” у свой футбольны клуб?**

– Буду шукаць такую, якая была б са мной аднадумцам. Каб нашы інтарэсы супадалі.

***

**Віталь Макрыцкі з Маладзечна: – Дзе працавалі футбалісты “Крумкачоў”, калі сумяшчалі гульню ў футбол з работай?**

– У асноўным за каманду гулялі студэнты, але былі і тыя, хто працаваў аператарам, прадаўцом, будаўніком, адміністратарам… Напрыканцы сезона, калі вырашалася пытанне нашага ўдзелу ў вышэйшай лізе, многія бралі адпачынак за свой кошт, а ў некаторых нават з’яўляліся праблемы на працы. Але людзі рабілі выбар. Зараз, калі каманда выйшла ў вышэйшую лігу, ніякіх сумяшчэнняў не будзе. Тут і зборы, і матчы, і двухразовыя трэніроўкі… За двума зайцамі пагнацца не ўдасца.

**– Калі не сакрэт, якія заробкі будуць у футбалістаў “Крумкачоў”?**

– У сярэднім 8–10 мільёнаў рублёў у месяц. Але з гэтай нагоды пытанняў у футбалістаў няма. Нават “легіянеры” (а іх сем у камандзе – расіянін, тры ўкраінцы, два ігракі з Кыргызстана і адзін са Сьера-Леоне) прымаюць такія ўмовы.

**– Былы галоўны трэнер зборнай Беларусі Юрый Пунтус сказаў, што ваша каманда – каліф на час. Як ставіцеся да такіх выказванняў?**

– Нармальна. Для многіх, магчыма, незвычайна, што на сённяшні момант у вышэйшай лізе мы поўнасцю прыватны клуб. Адзіны ў Беларусі. У нас на сезон расходная частка бюджэту каля 340 тысяч долараў. У некаторых іншых – некалькі мільёнаў. У Беларусі такое размежаванне нязвыклае, але ў Еўропе гэта нармальная з’ява. Таму не трэба гэтага баяцца, варта змяняць беларускую ментальнасць.

***

**– Аляксандр Піліпук, Чэрвень: – Выхад “Крумкачоў” у вышэйшую лігу зрабілі нейкай суперпадзеяй. Вы таксама так лічыце?**

– Безумоўна. Няхай хтосьці паспрабуе дасягнуць такой вышыні з такім бюджэтам, які быў у нас. Паглядзім, што атрымаецца. А што тычыцца піяру ў прэсе, дык гэта самі журналісты ацэньвалі нашы заслугі. І, калі пайшла лавіна інфармацыі, яе ўжо было не спыніць. Таму асабіста мне прыемна, калі нейкая беларуская дзяўчына не ведае, хто такі Раналду ці Месі, але шмат чула пра “Крумкачоў”.

***

**– Павел Знавец звяртаецца, якога вы добра ведаеце. Калі ў вышэйшай лізе ў “Крумкачоў” нічога не атрымаецца, ці не апусцяцца ў вас рукі і ці не з’явіцца расчараванне? Што будзеце рабіць у такім выпадку?**

– Я наогул не разумею, што значыцца “нічога не атрымаецца”. Мы патрапілі ў вышэйшую лігу, а гэта ўжо дасягненне. Футбол – гэта спорт, тут можна выйграць і прайграць. Як атрымаецца. Людзі атрымліваюць траўмы, могуць сварыцца, але ў любым выпадку казаць пра “нічога не атрымацца” не даводзіцца. Абяцаю, што для “Крумкачоў” гэта будзе адметны год, які праз нейкі час будзем успамінаць з гонарам.

***

**– Сяргей Шаліма з Мінска: – Хацеў бы пачуць адказ на пытанне: ці можна ў беларускім футболе зарабляць грошы і як гэта збіраецеся рабіць вы?**

– Складанае пытанне. Напэўна, правільны адказ будзе: “У беларускім футболе нельга зарабіць”. Але мы хочам змяніць традыцыі за кошт талковага менеджменту, трэнераў і футбалістаў. Хочам, каб быў глядацкі інтарэс, цікавасць рэкламадаўцаў. Калі б пабудавалі стадыён праз год-два, тады было б куды прасцей. Я ўпэўнены на тысячу працэнтаў, што ў Мінску на матчы можна збіраць 10–15 тысяч балельшчыкаў. Хоць шмат залежыць і ад сітуацыі ў краіне. Спорт і эканоміка цесна звязаны.

**– Колькі будуць каштаваць білеты на матчы з удзелам вашай каманды?**

– Прынамсі першыя гульні “Крумкачы” будуць праводзіць на сталічным стадыёне ФК “Мінск” на вуліцы Маякоўскага, але з коштамі на квіткі пакуль не вызначыліся. З гэтай нагоды ўнутры клуба ў нас вялікія спрэчкі. Зрабіць уваход бясплатным? Прадаваць толькі VIP-білеты альбо ўсе? Вызначымся.

**– Вы знайшлі сабе спонсараў?**

– У маім разуменні не павінна быць такога, што прыйшоў нейкі спонсар, даў грошай і сказаў: “Гуляйце, хлопцы!” Усе грошы, якія прыходзяць у клуб, мы зарабляем. У нас ёсць партнёры, якія атрымліваюць ад нас таксама нешта – у першую чаргу рэкламныя паслугі. Але, на мой погляд, гэта складана назваць спонсарствам.

***

**– Алесь Грыцкевіч звяртаецца з пытаннем: “Наколькі мне вядома, клуб “Крумкачы” вельмі любяць нацыянальна свядомыя беларусы, якія ведаюць мову, гісторыю краіны… А як вы, Дзяніс, ставіцеся да роднай мовы? Ці чытаеце кнігі па гісторыі Беларусі?”**

– Шчыра кажучы, на кнігі зараз проста не хапае часу, але да мовы стаўлюся вельмі добра. Калі паступаў на факультэт журналістыкі, я падаваў у прыёмную камісію свае публікацыі менавіта на беларускай мове. Ды і як яшчэ па-іншаму можна ставіцца да роднай мовы? Тое самае, што спытаць: “Як вы ставіцеся да сваёй рукі ці нагі?” Гэта – частка нас. У мяне шмат беларускамоўных сяброў. Іншая справа, што ў асноўным даводзіцца мець зносіны на рускай мове. Дарэчы, у “Крумкачоў” вельмі шмат беларускамоўных балельшчыкаў.

***

**– Віктар Міхальчанка: – Дзяніс, ці дапамагае вам папулярнасць? Можа быць, даішнікі пазнаюць і не штрафуюць альбо прыхільніц дадалося?**

– Даішнікі дакладна не пазнаюць, бо ў мяне няма і ніколі не было машыны. Я люблю хадзіць пешшу, езджу на грамадскім транспарце. Гэта нават выклікае жарты, калі сузаснавальнік футбольнага клуба едзе ў Федэрацыю футбола на тралейбусе.

Што тычыцца прыхільніц, то мне вельмі не хацелася б, каб іх дадавалася толькі таму, што я часам даю інтэрв’ю. Тым больш не думаю, што ў нас дзяўчаты асабліва цікавяцца футболам. Я ж не эстрадная зорка. Мне больш даспадобы, калі ў метро ці на вуліцы пазнаюць звычайныя аматары футбола, кажуць нейкія добрыя словы. Вось не так даўно дзядуля падышоў, пажадаў поспехаў. У такія моманты разумееш, што робіш сваю справу не дарэмна.

Дарэчы, некаторыя балельшчыкі ўспрымаюць футбольны клуб “Крумкачы” як апазіцыю ў беларускім футболе. На самай справе мы ніякая не апазіцыя, а партнёры з іншымі клубамі. Нам хочацца разам ісці і вучыцца ў іншых – і ў “Іслачы”, і ў БАТЭ, і ў мінскага “Дынама”.

***

**Вадзім, балельшчык мінскага “Дынама”: – Ваша стаўленне да таго “шмону”, што часам ладзіць міліцыя падчас футбольных матчаў? На ваш погляд, гэта нармальная практыка?**

– Абсалютна ненармальная. Павышаныя меры бяспекі могуць быць, калі гэтага патрабуе сітуацыя, але ж не падчас кожнай гульні. Хоць, шчыра кажучы, калі я часам бываў на нейкіх матчах за мяжой, то там таксама быў дасканалы нагляд. Нават сабакі абнюхвалі кожнага балельшчыка.

Дарэчы, я пазітыўна стаўлюся да таго, каб на стадыёнах працавалі сцюарды, і мы збіраемся вельмі моцна папрацаваць у гэтым накірунку. Мяркую, што нават прыклад пакажам іншым клубам, як трэба працаваць.

**– А як у вас складваюцца па жыцці адносіны з супрацоўнікамі праваахоўных органаў?**

– Ніколі не было праблем. Пакуль мы суіснуём паралельна, тым больш што я законапаслухмяны чалавек. А аблаяць цябе могуць не толькі міліцыянеры, але і ў магазіне ці тралейбусе. Я тут не падзяляю людзей на нейкія катэгорыі.

**– Для вас “Крумкачы” – гэта бізнес?**

– Які ж гэта бізнес, калі ён пакуль стратны? Футбол для мяне ў першую чаргу любімая справа, спосаб самарэалізацыі. Гэта больш, чым грошы.

**– У якім выпадку вы пакінеце каманду?**

– Калі палічу, што клубу будзе лепш без мяне. Але ў любым выпадку “Крумкачы” назаўсёды застануцца са мной.

***

**– Паважаны Дзяніс! Вельмі правільна, што вы надалі камандзе нацыянальны каларыт. Гэта дадасць ёй тысячы заўзятараў, прычым не толькі ў сталіцы, але і на перыферыі, бо многія беларусы хоць і не размаўляюць на роднай мове, але ў душы цягнуцца да ўсяго нацыянальнага. Вось, напрыклад, я асабіста стаў прыхільнікам “Крумкачоў” менавіта з гэтай прычыны. І яшчэ. Мне здаецца, “Крумкачы” павінны мець свой, адмысловы гімн. Я напісаў тэкст. Калі ён вам спадабаецца, можаце скарыстаць. З павагай – Алесь Няўвесь.**

### Гімн “Крумкачоў”

Мы гуляем на футбольным полі,
Наш суддзя галоўны – гледачы,
Іх давер не страцім мы ніколі,
Бо на тое мы і “Крумкачы”!

***Прыпеў:***
*А крумкачоў узносяць крылы да аблокаў,*
*А крумкачы глядзяць заўсёды зверху ўніз.*
*“Ляцець высока, глядзець далёка!” –*
*Такі наш кліч, такі дэвіз.*

Мы ў гульні паказваць станем хватку,
Будзем біць мы гэтак па мячы,
Каб заўжды ляцеў ён у “дзявятку”,
Бо на тое мы і “Крумкачы”!

***Прыпеў.***

Дух нацыянальны беларускі
Здольны ў барацьбе дапамагчы
І любыя вытрымаць нагрузкі,
Бо на тое мы і “Крумкачы”!

***Прыпеў.***

Ёсць у нас і мэта, і праграма:
Пройдзе час – нам будуць па плячы
І БАТЭ, і мінскае “Дынама”,
Бо на тое мы і “Крумкачы”!

***Прыпеў.***

А калі надарыцца параза,
Мы не “распускацьмем смаркачы”,
Мы з калень устанем зноўку разам,
Бо на тое мы і “Крумкачы”!

**“Прамую лінію” правёў Алесь СІВЫ.**

---

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Іван ЛІС, намеснік дырэктара гарналыжнага комплексу “Лагойск”:
# «Грошы растаялі разам са снегам»

*Расказ пра тое, якую свінню ў гэтым годзе падклала надвор’е беларускім гарналыжным комплексам.*

– Сезон мы адкрылі толькі 30 снежня, бо ўвесь месяц быў цёплы, – кажа суразмоўца. – Увесь комплекс запрацаваў 6 студзеня, а ўжо 25 студзеня зноў прыйшло пацяпленне, падчас якога народ проста адмаўляўся верыць, што ў комплексе можа быць снег. Наведвальнасць рэзка знізілася. Так што лічыце самі: эфектыўна мы працавалі каля трох тыдняў у першы месяц года.

**– У фінансавым плане засталіся ў мінусе?**

– Скажам так, паказчыкі былі не такія, якіх чакалі, бо, напрыклад, год таму мы наогул адкрыліся ўжо 25 лістапада. Зараз, паўтаруся, снежань аказаўся абсалютна пустым, так што неслі адны выдаткі на заснежанне. Як кажуць, грошы растаялі разам са снегам. Хаця, калі браць у беларускіх рублях, то выйшлі на пазіцыі мінулага года па ўзроўні таго, што зарабілі. Калі перавесці ў валюту, то атрымалася значна менш.

**– Ці моцна змяніліся ў вас апошнім часам кошты на паслугі?**

– У параўнанні з мінулым годам кошты выраслі толькі на некалькі відаў паслуг і ўсяго на 10–20 тысяч. Да курса долара цэны мы не прывязвалі, таму, напрыклад, для замежнікаў, якія атрымліваюць заробкі ў доларах, адпачынак стаў больш танны.

**– У комплекс любілі прыязджаць не толькі беларусы, але і расіяне. Крызіс паўплываў на наведвальнасць усходніх суседзяў?**

– Расіяне ў нас адпачывалі падчас навагодніх канікул, практычна ўсю гасцініцу забраніравалі. Пасля прыязджалі на выхадныя, але ўжо не столькі, як раней. І ўвогуле яны сталі больш эканомныя. У мінулыя часы расіянін прыязджаў на тры дні і на тры дні браў інвентар, хоць катаўся чалавек, можа быць, тры гадзіны ў дзень. Раней для гэтай публікі беларускія кошты былі проста смешныя. А зараз, калі расіянін катаецца гадзіну, то напракат лыжы бярэ таксама толькі на гадзіну.

**– Калі вы закрываеце сезон?**

– Усё будзе залежаць ад надвор’я і ад таго, як будуць вытрымліваць трасы. Можа, тыдзень-два яшчэ пратрымаемся.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



---

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

# Белоруски в красных платьях собрали 10 тысяч долларов больным детям



*На прошлой неделе в Доме Москвы состоялось ежегодное благотворительное дефиле «Красное платье». Благодаря пожертвованиям гостей вечера удалось собрать большую сумму для фонда «Шанс», который занимается помощью детям с серьезными сердечно-сосудистыми заболеваниями.*

По словам организатора вечера главного редактора журнала «Город Женщин» Марии Столяровой, желающие купить билет на благотворительный показ «Красное платье» за 400 тысяч белорусских рублей *«шли непрерывным потоком»*.

В самом показе принимали участие 25 известных телеведущих, артисток, бизнес-леди, спортсменок. Многие дамы хорошо знакомы зрителям: актриса Купаловского театра **Анна Хитрик**, певица **Искуи Абалян**, телеведущая **Светлана Боровская**. Очаровала публику прима Национального академического Большого театра оперы и балета **Александра Чижик**, которая вышла на сцену в сияющей красной пачке. Приятно было смотреть на культуролога, публициста и супругу владельца интернет-портала tut.by **Юрия Зиссера Юлию Чернявскую**. Супругу бывшего премьер-министра Беларуси **Людмилу Сидорскую**, которая участвовала в «Красном платье» не один год, в этом сезоне на сцене сменила дочь экс-премьера **Оксана Сидорская**.

Генеральный спонсор вечера компания МТС выбрала в качестве главного действующего лица дефиле 16-летнюю **Марину Богданович**, простую девушку, которая сама в детстве перенесла сложную операцию на сердце, и сейчас призывала пользователей социальных сетей жертвовать деньги на лечение детей.

Среди гостей также было немало знаменитостей. Баскетболист **Александр Куль** пришел на вечер с красавицей-женой. Пара обращала на себя внимание не только из-за выдающегося роста спортсмена, но и благодаря неординарному поступку Александра. Он был одним из смельчаков, которые примерили женские красные платья ради сбора средств для больных детей. Скромно держался на празднике белорусский модельер **Саша Варламов**, отбывший заключение по обвинению в финансовых махинациях.

Несмотря на кризисный год, благотворительный показ «Красное платье» прошел с большим размахом. Несколько сотен гостей, звезды и знаменитости смогли справиться с главной целью – собрали более 10 тысяч долларов для благотворительного фонда «Шанс», который помогает детям с сердечно-сосудистыми заболеваниями.

**Сергей САЦЮК.**


Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16022

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ





Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.03.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 620 экз. Заказ № 896